# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

27 чэрвеня 2014 года №26 (1000)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Будзе свой вятрак на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА.** На ўзгорку каля вёскі Макарычы пачалі мантаж ветраэнергетычнай устаноўкі. Яе намінальная магутнасць – 500 кВт. "Электраэнергіі, што ўстаноўка выпрацуе за год, павінна хапіць для забеспячэння 200-250 дамоў або кватэр", – паведаміў прараб **Сяргей Жук.** Вятрак – нямецкай вытворчасці. Закупіў яго індывідуальны прадпрымальнік. Працы па ўстаноўцы ветрака маркуюць завяршыць за паўтара месяца.

### Фестываль "Адна зямля" – 5 ліпеня

**ВАЛОЖЫН.** Рэгіянальны фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" сёлета пройдзе ў Валожыне. Сузаснавальнікам фестывалю з'яўляецца "Рэгіянальная газета". Пачатак свята – апоўдні на плошчы Свабоды.

### Пілігрымы рушылі да Будслава

**МЯДЗЕЛ.** Штогод у пачатку ліпеня ў Будславе на Мядзельшчыне збіраюцца тысячы вернікаў з усёй Беларусі. Сёлета ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай адбудуцца 4-5 ліпеня. Многія з вернікаў ідуць у Будслаў пешшу. Першыя пілігрымы ўжо рушылі ў дарогу. Яны – з далейшых мясцін: Баранавічаў, Віцебска.

### 3 і 4 ліпеня - выхадныя

Працоўны дзень 4 ліпеня пераносіцца на суботу, 12 ліпеня. Так беларусы атрымаюць чатырохдзённыя выхадныя з нагоды Дня Незалежнасці Беларусі. Арганізацыі могуць пераносіць рабочы дзень у іншым парадку.

**Аддзел інфармацыі.**





# Што такое тысяча?

## За амаль 20-гадовую гісторыю "Рэгіянальнай газеты" выйшла 1000 яе нумароў

**Тысяча – многа ці мала? У кожнага можа быць свой адказ. Але ў любым выпадку – гэта 1000. Што ёсць факт, а не меркаванне. Віншуем нашых чытачоў!**




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Перад выхадам 1000-га нумара "Рэгіянальнай газеты" загадчыца аддзела інфармацыі "РГ" Зоя Хруцкая паказвае ўсе 999 выпускаў нашага тыднёвіка, якія папярэднічалі сённяшняй падзеі.

● МОВА

# Вінцук Вячорка: "Беларуская мова жывучая – выберамся"

**МАЛАДЗЕЧНА. Сустрэча-дыспут з мовазнаўцам Вінцуком Вячоркам адбылася 24 чэрвеня ў Маладзечне.**

Тэма сустрэчы гучала так: "Права на мову".

У пачатку Вінцук Вячорка прывёў статыстыку паводле перапісу насельніцтва, колькі людзей лічаць беларускую мову роднай.

**Калі ў 1999 годзе роднай беларускую мову назвалі 85% людзей, то праз 10 гадоў, згодна з перапісам 2009 года, – толькі 60%.**

– Гэта беспрэцэдэнтная сітуацыя. Ні ў адной краіне свету такога не было, – патлумачыў спадар Вінцук. – Адбылося такое з-за таго, што беларусы проста прыстасаваліся да сітуацыі, якая склалася ў рускамоўным грамадстве.

Дзеці, што навучаюцца па-беларуску ў школе (іх 18%) далей не могуць выкарыстоўваць сваё валоданне мовай, таму што ў ВНУ колькасць студэнтаў, якія навучаюцца па-беларуску, складае 0,9%.

## На якой мове пытаецеся, на такой мусяць адказваць

Кожны можа адстойваць свае права на мову. У любой дзяржаўнай установе вам павінны адказаць на той мове, на якой вы звяртаецеся. Хочаце пасведчанне кіроўцы па-беларуску – калі ласка, дастаткова толькі напісаць адпаведную заяву.

– Самая галоўная хіба беларускага заканадаўства ў тым, што ў нас адна мова выключае іншую. У заканадаўстве прапісана, што дакументацыя павінна весціся на рускай АБО беларускай мове. У іншых жа краінах, дзе таксама дзве дзяржаўныя мовы, у заканадаўстве напісана так: дакументацыя павінна весціся на абедзвюх мовах. Такая сітуацыя ў Фінляндыі: вядуць заканадаўства на фінскай І шведскай мовах. Разумееце, што розніца паміж злучнікамі І і АБО значная.

Другая частка сустрэчы-дыспута была прысвечаная пытанням, якія задавалі прысутныя.

Адно з пытанняў тычылася таго, куды звяртацца бацькам, якія хочуць, каб іх дзіця навучалася па-беларуску.

– Нам у аддзеле адукацыі сказалі, каб мы адпраўлялі дзіця вучыцца ў Выверы. А што калі мы хочам, каб дзіця вучылася ў горадзе? Няўжо так цяжка зрабіць у якой-небудзь адной школе беларускамоўны клас? – задалі наперабой пытанне муж з жонкай, што прысутнічалі на сустрэчы.

Вінцук Вячорка не даў адказу адразу, але паабяцаў паспрабаваць дапамагчы.

## Маленькія перамогі ратуюць мову

На пытанне, на якой мове павінны адказаць у ЖЭКу на запыт, адказ Вінцука быў, вядома, адназначны:

– Канешне, па-беларуску. Прывяду прыклад са свайго досведу. Калі мне падключалі інтэрнэт, спецыяліст запытаўся ў мяне: "Як ваша прозвішча напісаць па-руску?" Я шчыра адказаў, што не ведаю. Таму што па-беларуску яно гучыць зразумела – Вячорка. А па-руску мае ажно 12 варыянтаў напісання. І я папрасіў пісаць сваё імя толькі па-беларуску. Так да мяне і прыходзяць цэтлікі на аплату інтэрнэта: бланк на рускай мове, а імя і прозвішча на беларускай. Вось такая маленькая перамога.

Яшчэ адно пытанне было ад дзяўчыны, у якой у пашпарце тры месцы рэгістрацыі: спачатку гэта была вуліца Будаўнікоў, потым "Строителей", урэшце стала называцца "Будаўнікоў".

– Згодна з законам аб геаграфічных назвах, – адказвае Вінцук, – назвы вуліц павінны давацца на беларускай мове, а потым транслітаравацца. Так што не пеpажывайце, назва вашай вуліцы хоць па-расейску, але зусім не расейская.

Фінал размовы Вінцук Вячорка закончыў па-філасофску і абнадзейваючы:

– Беларуская мова – яна жывучая. Выбралася з савецчыны, выберацца і з сённяшняй сітуацыі.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

Вінцук Вячорка дэманструе "Усеагульную дэкларацыю лінгвістычных правоў".

● АДУКАЦЫЯ

# Юныя віляйчане вучыліся даследаваць

**ВІЛЕЙКА. Ад 16 па 20 чэрвеня шэсць вучняў з Вілейшчыны прынялі ўдзел у трэцяй рэспубліканскай летняй адукацыйнай школе для вучнёўскай моладзі "Асновы арганізацыі і правядзення навуковых даследаванняў – 2014".**

Працавала яна на базе Цэнтра моладзевых інавацый Мінскага гарадскога тэхнапарка, паведаміла дырэктар Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**.

У летняй школе адпачывалі і займаліся шэсць вучняў – з вілейскай гімназіі №2 і сярэдняй школы №1 Вілейкі: **Анастасія Ахрэм, Ангеліна Лазар, Маргарыта Рыжанкова, Алена Саўчыц, Марк Іваненка, Даніл Каган.**

Яны прынялі ўдзел у двух накірунках: гуманітарныя навукі і медыцына, хімія, біялогія.

Для ўдзельнікаў арганізавалі экскурсіі ў лабараторыі і навуковыя арганізацыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Цэнтральны батанічны сад, Нацыянальную бібліятэку, у музеі і галерэі Мінска, а таксама лекцыі, адукацыйныя семінары, трэнінгі, сустрэчы з навукоўцамі.

Удзельнікі падрыхтавалі выпускны праект і абаранялі яго на канферэнцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

● КУЛЬТУРА

# Пераможцаў назавуць на канцэрце 1 ліпеня

**ВІЛЕЙКА. У аўторак, 1 ліпеня, у 19.30 на цэнтральнай плошчы горада пройдзе гала-канцэрт аўтарскай песні і паэзіі "Вілейская хваля – 2014".**

Пра гэта паведаміла намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Выступяць у ім удзельнікі чацвертага раённага фестывалю аўтарскай песні і паэзіі "Вілейская хваля-2014". Ён праходзіў напрыканцы мая. І тады інтрыга фестывалю захавалася: імёны пераможцаў абвяшчалі назваць у пачатку ліпеня.

**А за гадзіну да пачатку канцэрта, у 18.30, ля дрэва Сяброўства пройдзе традыцыйная сустрэча дэлегацый гарадоў-партнёраў Вілейкі.**

**Аддзел інфармацыі.**

АФІЦЫЙНА

# Сметніца з надпісам “не смеціць”

## Улада змагаецца за парадак на зямлі

**МАЛАДЗЕЧНА. Навесці парадак на зямлі і добраўпарадкаваць яе – гэту задачу кіраўніцтва раёна лічыць адной з прыярытэтных.**

Добраўпарадкаванню была прысвечаная выязная сесія Савета дэпутатаў, якая адбылася 19 чэрвеня.

Дэпутаты разам з кіраўнікамі аддзелаў райвыканкама аб’ехалі ўсходнюю частку раёна. На мяжы сельсаветаў удзельнікаў сустракалі старшыні сельвыканкамаў і распавядалі пра сваю тэрыторыю. Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** асабліва ўважліва сачыў, ці абкошаная трава ўздоўж дарог:

– Мы цяпер едзем па рэспубліканскай трасе, трава абкошаная да пасеваў. Так павінна быць на ўсіх дарогах. Нараканне выклікае работа сельвыканкамаў з насельніцтвам. Трэба працаваць больш цесна. Калі жыхары не хочуць ўдзельнічаць у навядзенні парадку – ёсць службы, якія павінны прыцягваць вінаватых да адказнасці, штрафаваць.

Ад пачатку года склалі 298 пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях за тое, што не садзейнічалі добраўпарадкаванню. Сума накладзеных штрафаў – каля 200 мільёнаў рублёў.

**У Красненскім сельсавеце шукаюць сродкі, каб добраўпарадкаваць возера на ўездзе ў мястэчка. Яно, на думку старшыні сельвыканкама Валянціны Кісель, магло б стаць добрым месцам для ўрачыстай рэгістрацыі шлюбаў, месцам сямейнага адпачынку.**

### Вёскі чакаюць газу

Тры вёскі сельсавета – Плябань, Красоўшчына і Ласі – чакаюць газіфікацыі, якая павінна прыйсці ў бліжэйшыя гады. Не так даўно правялі газ у вёску Уша. Калі раней дамы ў вёсцы каштавалі 5-6 тысяч долараў, то цяпер – не ніжэй за 25 тысяч.

Алёхнавічы сталі першым аграгарадком на Маладзечаншчыне. Але і там ёсць праблемы. У дзіцячым садку выхоўваецца 95 дзяцей. Ёсць яшчэ ахвотныя наведваць сад, але ўстанове, каб прыняць больш дзяцей, патрэбны рамонт.

У Радашкавічах чакаюць, калі дабудуюць універмаг.

**Алёхнавіцкая птушкафабрыка да канца года плануе выпусціць мяса птушкі на 80 мільярдаў рублёў.**

Чысцінскі сельсавет самы буйны ў раёне. Тут нетыповая для сучаснай Беларусі дэмаграфічная сітуацыя: нараджальнасць перавышае смяротнасць прыкладна на 70%. У школе вучыцца больш за 800 вучняў.

У Чысці шмат дзяцей, і фізкультурна-аздараўленчыя збудаванні тут запатрабаваныя. У школе адкрыты новы басейн, на стадыёне – футбольнае поле са штучным пакрыццём.

– Гэта самае найлепшае пакрыццё, якое імітуе зялёную траву. Падыдзіце, паскачыце, – запрашаў дэпутатаў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Юры Байтаз**.

### Дачнікі вязуць смецце з Мінска?

Падчас сесіі начальнік Маладзечанскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў** распавёў:

– Устаноўлены адзіны санітарны дзень для навядзення парадку – чацвер. Істотныя плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў не выкарыстоўваюць. Асабліва недарэчна, што не выкарыстоўваюць землі на мяжы з Мінскім раёнам, якія маюць высокую рынкавую цану.

Аляксандр Яхнавец абурыўся тым, што не вырашаецца праблема смецця ў дачных кааператывах:

– Такое адчуванне, што ў Мінску няма куды выкідаць смецце і яго вязуць сюды. Учора бачыў, што нехта ложак выкінуў. Стаяць прыгожыя смеццевыя кантэйнеры. На некаторых нават напісана “смецце не выкідаць”. І скідаюць смецце каля прыпынку. Парадак у нас там будзе!

Адзін з дэпутатаў паскардзіўся, што на вакзале ахвотныя набываюць піва, але пакой, дзе ёсць месцы для сядзення і дзе можна яго выпіць, зачынены. Таму людзі п’юць проста на Прывакзальнай плошчы, а пасля ўсё загаджана кубачкамі і бутэлькамі. Адна з прапаноў у адказ – паставіць каля піўной кантэйнеры, якія будуць умяшчаць больш смецця.

### 500 тон на перапрацоўку

– Асобныя ўчасткі мы сёлета касілі ўжо сёмы раз, – распавёў дырэктар “Камунальніка” **Мікалай Наздрын-Платніцкі**. – Гэта вялізныя затраты. У дзень на касьбу можа пайсці 90 літраў 92-га бензіну. На азеляненне сёлета пайшло больш за мільярд рублёў. Некаторыя прадпрыемствы самі вывозяць смецце на палігоны. Яны хітруюць: знізу кладуць другасную сыравіну, а зверху – дазволеныя адходы. Потым эколагі скардзяцца, што на палігоне шмат другаснай сыравіны. Бо на пунктах прыёму гэтай сыравіны бываюць дні, калі прымаюць тры тоны шкла. За пяць месяцаў наша прадпрыемства здало на перапрацоўку 583 тоны другасных рэсурсаў.

Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

Фота з архіва “РГ”.

Двор Людмілы Сірыські ў Красным выходзіць на вуліцу 1 Мая. Падтрымліваць парадак і добраўпарадкоўваць сваю зямлю – натуральна для гаспадароў. Тым больш, што такая справа можа быць вясёлым заняткам для ўсёй сям’і, а выкарыстоўваць можна тое, што пайшло б на сметніцу. Пройдзеш па вуліцы з “жывымі” дварамі – і напаўняешся выдатным настроем.

### Факты пра 1000

– За 1000 рублёў сёння можна набыць тры каробкі запалак ці поліэтыленавы пакет.

– 1000 рублёў – самая апетытная сучасная купюра. На ёй размешчаная вывява часткі карціны беларускага мастака Івана Хруцкага “Партрэт жонкі з кветкамі і фруктамі”.

| Курсы валют НБ РБ | 19.06 | 26.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 170,00 | **10 190,00** |
| Еўра | 13 780,00 | **13 870,00** |
| Злоты | 3 325,16 | **3 342,79** |
| Літ | 3 991,13 | **4 016,00** |
| Расійскі рубель | 292,00 | **300,50** |
| Грыўня | 851,22 | **856,66** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13770/13860 | **13860/13950** |
| Долар ЗША | 10160/10210 | **10185/10230** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.06 | 25.06 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 125900 | **125900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 63600 | **60050** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 28800 | **29900** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 100000 | **100000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28900 | **28900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 95000 | **105000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 14000 | **12000** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 10000 | **10000** |
| **Алей “Масловія”** | 13000 | **13000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 6700 | **7500** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **9000** |
| **Капуста**, 1 кг | 7000 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 9500 | **9000** |
| **Буракі**, 1 кг | 14000 | **12000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 27500 | **24000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 15500 | **16500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 21500 | **21000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 19500 | **19500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 4900 | **8500** |
| **Перац**, 1 кг | 28000 | **38500** |
| **Вінаград**, 1 кг | 22500 | **21000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12900 | **14900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **11500** |
| **Грушы**, 1 кг (Дюшэс) | 23500 | **25900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 50000 | **50000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | **12000** |
| **Сала**, 1 кг | 85000 | **100000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |
| **Яйкі**, 1 дзес. | - | **18000** |

● КОНКУРСЫ

# Хімікі-выратавальнікі з Маладзечна – лепшыя ў вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА. У пажарным аварыйна-выратавальным атрадзе 24 чэрвеня адбыліся спаборніцтвы сярод службаў хімічнай і радыяцыйнай абароны падраздзяленняў МНС Мінскай вобласці.**

На спаборніцтвы прыехалі дзевяць камандаў з Дзяржынска, Клецка, Капыля, Пухавічаў, Маладзечна, Нясвіжа, Слуцка, Смалявічаў, Салігорска.

У каманду пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада (ПАВА) Мінскага абласнога ўпраўлення ўваходзілі інжынер службы хіміка-радыяцыйнай абароны **Аляксандр Канкаловіч**, камандзіры аддзяленняў **Віталь Падбярэзскі і Дзяніс Дзядзюль**, старшы выратавальнік хімік-дазіметрыст **Мікіта Кляміцкі**.

Выратавальнікам-удзельнікам камандаў давялося спаборнічаць у чатырох этапах выпрабаванняў.

Першы з іх быў тэарэтычны. Як патлумачыў намеснік начальніка пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Сяргей Яўсеенка**:

– Тэарэтычныя веды для тых, хто працуе з хімічнымі і радыяцыйнымі рэчамі, вельмі важныя. У працы “хімікаў” неабходна ведаць, якія рэчывы можна тушыць вадой, якія нельга. Быў у 60-х гадах выпадак у Казахстане, калі выратавальнікі няправільна тушылі прапан, які ў выніку выбухнуў. Тады загінула каля 100 чалавек.




Другі этап конкурсу “Апрананне засцерагальнага адзення”. На фотаздымку каманда з Капыля.

Другі этап спаборніцтваў быў на апрананне засцерагальнага касцюма на час.

– Ад хуткасці і правільнасці апранутага касцюма залежыць час, за які выратавальнікі змогуць выехаць да месца здарэння ці пачаць ліквідоўваць аварыю, – гаворыць Сяргей Яўсеенка. – Цяпер хутчэй за ўсіх засцерагальны касцюм апранаюць прадстаўнікі пажарнага атрада Мінскай вобласці, што знаходзіцца ў Маладзечне. Іх час 47 секунд.

Трэці і чацверты этапы ўключалі ліквідаванне аварыі на чыгунцы і на трубаправодзе. Па легендзе невядомая вадкасць выцякала з цыстэрны на чыгунцы. Трэба было не толькі хутка ліквідаваць цечу, але і зрабіць гэта па ўсіх правілах. На заключным этапе выратавальнікам давялося не толькі ліквідоўваць цечу ў трубаправодзе, але і ратаваць пацярпелага з-пад бетонных пліт і бэлек.

Па выніках усіх чатырох конкурсаў, каманда ПАВА Мінскай вобласці стала лепшай, за што і атрымала кубак і ганаровыя граматы.

– Такія спаборніцтвы праводзяцца толькі другі раз. I год таму каманда маладзечанцаў была першай. Таму вельмі прыемна, што і сёлета кубак застаецца ў нас, у пажарным аварыйна-выратавальным атрадзе Мінскага абласнога ўпраўлення МНС, – падсумаваў Сяргей Яўсеенка.

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Прымуць экзамены ў будучых матацыклістаў

**МАЛАДЗЕЧНА.** У чацвер, 26 чэрвеня, будуць прымаць экзамены па Правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыклам. Пачатак экзаменаў а 8 гадзіне.

Ахвотныя змогуць зарэгістравацца ў Маладзечанскай арганізацыі Добраахвотнага таварыства садзеяння авіяцыі, арміі і флоту па адрасе: *Маладзечна, вуліца Віленская, 64.* Тэлефоны: **(80176) 73-48-00, 73-56-03.**

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Хто можа стаць дружыннікам

**МАЛАДЗЕЧНА. Пяць добраахвотных дружын дапамагаюць захоўваць парадак на Маладзечанскай чыгунцы.**

Дружыны дзейнічаюць на тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце (МАУСТ). У іх удзельнічаюць работнікі прадпрыемстваў і арганізацый Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі: дыстанцыі сігналізацыі і сувязі, рэфрыжэратарнага вагоннага дэпо Маладзечна, дыстанцыя пуці, лакаматыўнага дэпо, станцыі Маладзечна.

У складзе дружын – 41 чалавек. На тэрыторыі аператыўнага абслугоўвання МАУСТ працуе пяць саветаў прафілактыкі ў калектывах.

Добраахвотныя дружыны – гэта аб'яднанне, удзельнікі якога дзейнічаюць пад кіраўніцтвам упаўнаважаных службовых асоб ці юрыдычных, якія іх стварылі.

Дружыннікі Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі дапамагаюць супрацоўнікам МАУСТ падтрымліваць грамадскі парадак, забяспечваць асабістую і маёмасную бяспеку на станцыях, вакзалах і ў цягніках. Яны папярэджваюць правапарушэнні на аб'ектах чыгункі і ўдзельнічаюць у рэйдавых мерапрыемствах.

Стаць членам добраахвотнай дружыны могуць грамадзяне Беларусі, якія маюць 18 год і якія па сваіх дзелавых і маральных якасцях, а таксама па стане здароўя могуць удзельнічаць у ахове правапарадку.

Не могуць стаць дружыннікамі тыя, хто мае судзімасць, стаіць на ўліку ў лячэбна-прафілактычных арганізацыях наконт псіхічнага захворвання, наркаманіі ці алкагалізму.

У гэты пералік уваходзяць таксама і тыя, хто па рашэнні суда прызнаны недзеяздольным ці абмежавана дзеяздольным, каго прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці цягам апошняга года.

**Таццяна СУБАЧ,**
**старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

● ЗДАРЭННІ

## Варылі курыцу – спалілі дом і лазню

**ВІЛЕЙКА. Пажар адбыўся 19 чэрвеня ў вёсцы Жукавічы. Каля гадзіны дня ў службу выратавання патэлефанавала суседка і паведаміла, што гарыць жылы дом.**

На тушэнне пажару выехалі чатыры падраздзяленні райаддзела па надзвычайных сітуацыях.

Калі прыбылі на месца, то драўляны дом і размешчаная ў шасці метрах ад яго лазня гарэлі адкрытым полымем.

У выніку дом выгараў з сярэдзіны, пашкоджаная лазня, знішчаныя дахі абодвух будынкаў. Людзі не пацярпелі.

Прычынай пажару стала ежа, якая варылася на пліце, паведаміў старшы інспектар інспекцыі прафілактыкі і нагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук.**

У доме знаходзіліся двое мужчын. Паставілі варыць курыцу на пліце і заснулі. Калі прачнуліся, то дом быў поўны дыму. Праз дзверы выйсці яны ўжо не змаглі, выбіраліся праз акно.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Злодзея знайшлі праз два гады

**ВАЛОЖЫН. Крымінальную справу па факце крадзяжу ўзбудзілі 2 студзеня 2012 года.**

Гэта справа стала першай, якую ўзбудзіў Валожынскі аддзел Следчага камітэта (Следчыя камітэты пачалі працаваць ад 2012 года).

Жыхарка Мінска падала заяву: абакралі яе лецішча ў вёсцы Гірэвічы Валожынскага раёна. Зламыснік скраў будаўнічы інструмент.

На месца выбыла следча-аператыўная група, але затрымаць злодзея не змаглі.

– Зламыснік пакінуў на месцы сляды, – патлумачыў следчы Валожынскага райаддзела Следчага камітэта **Уладзімір Падарэцкі**, які праводзіў папярэдняе расследаванне справы. – Але пазней, дзякуючы правільным дзеянням праваахоўных органаў, знайшлі злачынцу. Следчы даказаў яго віну, а справу перадалі пракурору для накіравання ў суд.

По інфармацыі дзяржаўнага абвінаваўцы, памочніка пракурора Валожынскага раёна **Андрэя Жукоўскага**, справу разгледзелі ў Валожынскім судзе.

Злачынцу прызначылі пакаранне: 1 год і 6 месяцаў папраўчых работ з утрыманнем у даход дзяржавы 15% заробку. Злачынца таксама мусіць выплаціць пацярпелай матэрыяльную шкоду.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

### Факты пра 1000

1000 крымінальных спраў можа узбудзіць Валожынскі аддзел Следчага камітэта прыкладна за тры гады. У год – 300-350 спраў.

● СПАЖЫВЕЦ

# Мы з пакупнікамі ў футбол не гуляем

**МАЛАДЗЕЧНА. Дырэктар Маладзечанскага міжраённага аддзялення "Мінаблсаюздруку" Ядвіга Чаеўская распавяла "Рэгіянальнай газеце" пра самых удзячных пакупнікоў, адзінага мужчыну-кіяскёра і пра тое, калі разам з газетай можна будзе набыць... ровар.**

– Мы на месцы не сядзім, кожны раз прыдумваем нешта новае, каб паназнаёміць пакупнікоў з нашай прадукцыяй, з намі. На фестывалі "Маладзечна-2014" газеты прадавала... Снягурачка. Мы вырашылі, што дзяўчына ў белым футры летам абавязкова прыцягне ўвагу пакупнікоў. Да таго ж, гэтай акцыяй мы хацелі паказаць, што з гэтага лета нашы пакупнікі ў кіёсках "Мінаблсаюздруку" змогуць набыць не толькі газеты, але і марожанае, вадзічку, квас, – распавядае спадарыня Ядвіга.

**– Акцыя на фестывалі была аднаразовая ці і ў будучым плануеце здзіўляць пакупнікоў?**

– Мы пастаянна знаходзімся ў пошуку. Разам з цэнтрам дзіцячай творчасці "Расток" праводзім акцыі для самых удзячных чытачоў. Як вы разумееце, гэта дзеткі. Палац культуры таксама заўсёды адгукаецца на нашы ініцыятывы. Так што, мяркую, "Мінаблсаюздрук" яшчэ не раз здзівіць маладзечанцаў.

### Каву пакуль не прадаём, а ровары – калі ласка

**– Гледзячы на наш клімат, не ўзнікала жадання пачаць у кіёсках прадаваць каву? Мяркую, шмат людзей з задавальненнем выпілі б кубачак кавы ў чаканні аўтобуса на прыпынку?**

– Мы гаварылі пра гэта з нашым кіраўніцтвам у Мінску, але пакуль пытання не вырашылі, хаця ў Барысаве такая паслуга ўжо існуе. Мне таксама здаецца, што было б цудоўна мець магчымасць папіць гарачай кавы. Але хутка ў нашых крамах можна будзе набыць ровар. Самі бачылі, што месца ў кіёсках у нас мала нават для газет, таму ровары будуць прадавацца толькі ў нашым магазіне "Прэса-маркет". У кіёсках жа можна будзе заказаць ровар па каталогу.

**– Што яшчэ, акрамя газет, вы прапаноўваеце пакупнікам?**

– Ну, па-першае, толькі адных друкаваных выданняў у нас больш за 700 найменняў, шмат спадарожнага тавару. У нашых кіёсках можна набыць кераміку, якую вырабляюць у сумнавядомым Славянску. Вялікім попытам карыстаюцца кнігі, сувеніры, лялькі, трыкатаж.

### Жадаеце кнігу – прыходзьце і заказвайце

– У нас ёсць пастаянныя чытачы, для якіх ужо даўно выпрацаваўся своеасаблівы рытуал: кожны тыдзень яны прыходзяць у кіёскі і магазін і набываюць газеты да снядання.

У нашых чытачоў ёсць магчымасць прыходзіць і заказваць у кіёску кнігі на свой густ. Заўсёды адгукаемся на просьбы чытачоў прывезці гістарычную літаратуру, энцыклапедычныя даведнікі. З чытачамі мы ў футбол не гуляем. Ніколі не адфутболім чытача, які звярнуўся да нас з просьбай, праблемай ці па дапамогу. Ведаеце, у нас у Кнізе скаргаў няма ніводнай заўвагі, таму што я і мае супрацоўнікі заўсёды размаўляюць з пакупнікамі.

**– У вас калектыў пераважна жаночы?**

– У нашай вялікай сям'і працуе толькі адзін хлопец-кіяскёр – **Ілля Санько.** Але ён вельмі сур'ёзны, адказны. Цяпер паехаў здаваць сесію і пакуль не ведае, што мы яго кіёск перанеслі ад стаматалогіі на вакзал. Так што будзе сюрпрыз.

**– Не баіцеся, што ў эпоху інтэрнэта кіёскі з газетамі хутка прыйдуць у заняпад?**

– Я адкажу вам радкамі з фільма "Масква слязам не верыць": "Праз 20 гадоў нічога не будзе, адно суцэльнае тэлебачанне". А прайшло і 20, і яшчэ 20 год, а жыве і тэатр, і кіно, і газеты, і часопісы. Ёсць рэчы, якія інтэрнэту заменяць не па сілах: той жа пах толькі што надрукаванай старонкі. А часопісы для дзетак, хіба інтэрнэт можа спаборнічаць з такімі выданнямі, якія спецыяльна друкуюць, абапіраючыся на ўзрост дзіцяці? А кніжкі? Яны ж грэюць душу.

**– Пры ўсёй вашай загружанасці, ці можаце вы назваць сваю працу творчай?**

– Любая праца творчая. Галоўнае, каб была іскра. Кажуць, што шчаслівы чалавек той, хто спяшаецца і на работу, і дадому.

**– Вы пра сябе можаце сказаць, што вы шчаслівы чалавек?**

– Я скажу так: я проста люблю сваю работу. Мне цікава працаваць з людзьмі і дарыць ім шчасце. Ну ці не шчасце набыць любімую газету, каб прачытаць яе з раніцы або перад сном? Або ўслых сваім родным і блізкім?



Фота Наталі ТУР.

Дырэктар Маладзечанскага міжраённага аддзялення "Мінаблсаюздруку" Ядвіга Чаеўская прызналася, што "Рэгіянальная газета" ўваходзіць у лік яе любімых.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com

**Факты пра 1000**

**1000 дробязяў.** Назва шэрагу магазінаў яшчэ з савецкіх часоў. У такіх магазінах можна было набыць усё: ад запалак да бытавых прыбораў. Сёння магазіны з такой назвай ёсць у Вілейцы, Маладзечне, Смаргоні, Ашмянах.

● АДПАЧЫНАК

## Сядзіба з Мядзельшчыны ўвайшла ў лік лепшых на Міншчыне

**МЯДЗЕЛ.** Ва ўпраўленні спорту і турызму Мінаблвыканкама падвялі вынікі конкурсу "Лепшая аграэкасядзіба Мінскай вобласці-2013".

Пераможцаў вызначылі ў пяці намінацыях. Прадстаўнікі рэгіёна вызначыліся ў адной з іх: у намінацыі "Экасядзіба" першае месца заняла аграэкасядзіба "Бярозавы рай" з Мядзельшчыны. Яе гаспадыня – **Наталля Уцюгова**, а знаходзіцца сядзіба ля Мядзела ў маленькай вёсцы Шымкі.

Усяго на конкурс падалі 19 заявак.

**Аддзел інфармацыі.**

● ДАСЛЕДАВАННІ

## Шукалі сляды цмока

За апошні час прайшлі тры экспедыцыі па Вілейшчыне, Маладзечаншчыне і Валожыншчыне ў межах праекта "Вера Беларусі. Па слядах беларускага цмока". Апошняя з іх адбылася ў сярэдзіне чэрвеня на Вілейшчыну. Здзейснены экспедыцыі пад кіраўніцтвам філосафа і даследчыка з Мінска **Ірыны Дубянецкай.**

Падчас экспедыцый у ліку іншага шукалі сведчанні цмачынай традыцыі.

Пра вынікі пошукаў і тое, што цікавага пабачылі даследчыкі ў нашым рэгіёне, раскажам у "Рэгіянальнай газеце" ў бліжэйшы час.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Цмок –** міфічная істота. Паданні і міфы пра цмокаў ёсць практычна ва ўсіх народаў свету. Паводле паданняў, цмок мае вялікія памеры, можа лётаць і выдыхаць полымя са сваёй пашчы, а таксама валодае чарадзейнымі здольнасцямі.

# Газ у нашых дамах

**Бытавы газ у нашых дамах – з'ява звычайная. Мы настолькі прызвычаіліся да яго, што часам забываем, да якіх трагедый можа прывесці нядбайнасць пры карыстанні газавым абсталяваннем. Што рабіць, каб блакітнае паліва з надзейнага памочніка не ператварылася ў крыніцу смяротнай небяспекі?**

На жаль, шмат хто забывае, што тэхабслугоўванне газавага абсталявання – гэта не капрыз, а гарантыя спраўнасці і бесперабойнай працы абсталявання. У адваротным выпадку блакітнае паліва можа нарабіць нямала бед. Да прыкладу, у 2013 годзе ў краіне адбылося 12 няшчасных выпадкаў пры карыстанні газам у быце, у тым ліку 2 выпадкі атручвання чадным газам, пацярпелі 8 чалавек.

Галоўная мэта ТА – выявіць магчымыя непаладкі катла і звесці да мінімуму выпадкі яго адключэння ў ацяпляльны перыяд, праверыць, каб ён працаваў бяспечна і высокаэфектыўна. Таму неабходна адзін раз у год праводзіць тэхнічнае абслугоўванне.

Падчас ТА робіцца чыстка многіх вузлоў, якія падвяргаюцца ў працэсе работы актыўнаму ўздзеянню пылу, вільгаці, высокіх тэмператур, ціску і інш.

За год эксплуатацыі на паверхнях цеплаабмену (на медных пласцінах) з'яўляецца тонкі слой забруджвання. А забруджванне – галоўны вораг эфектыўнасці. Нават такое нязначнае забруджванне, як слой пылу таўшчынёй 0,2 мм, памяншае сячэнне для праходу дымавых газаў на 20 - 27% і адпаведна адмоўна адбіваецца на ККД катла і прыводзіць да залішняга спажывання газу.

Вельмі важна, каб работа катлоў, як і любога газавага абсталявання, была бяспечнай. За гэта адказвае ўсталяваная на катле аўтаматыка. У працэсе тэхнічнага абслугоўвання ў абавязковым парадку правяраецца праца аўтаматыкі па ўсіх без выключэння параметрах. У выпадку неабходнасці, а такая неабходнасць ўзнікае нярэдка, выконваюцца ўсе работы па наладцы работы аўтаматыкі бяспекі катла ва ўстаноўленых рэжымах. Пасля правядзення ТА ў поўным аб'ёме можна быць упэўненым, што кацёл не дапусціць "вопleskaў" пры яго распальванні, аўтаматычна ўключыцца ў работу пры ўзнаўленні энергазабеспячэння пасля часовага яго спынення, не адбудзецца блакіроўка цыркуляцыйнай помпы. У ходзе ТА спецыяліст, які выконвае гэтую работу, убачыць, ці прыйшла пара прамываць цеплаабменнік, а ў выпадку неабходнасці зможа зрабіць гэта. Тым больш, што рабіць гэта трэба перыядычна.

Сёння МВУ "Маладзечнаміжрайгаз" выконвае ўсе віды работ па тэхнічным абслугоўванні і рамонце газавых насценных катлоў імпартнай вытворчасці такіх гандлёвых марак, як ARISTON, FERROLI, BERETTA, IMMERGAS, MORA, PROTHERM, GEFEST, RIHTERS, BAXI.

У адпаведнасці з патрабаваннямі "Правілаў карыстання газам у быце", зацверджаных Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24.12.2013 г. № 1136, і дагавора на забеспячэнне газам і тэхнічнае абслугоўванне газавага абсталявання. Уласнік (наймальнік) жылога памяшкання абавязаны забяспечыць доступ работнікам газазабеспячэнцкай арганізацыі да газавага абсталявання, каб выканаць работы па тэхнічным абслугоўванні (п. 11.3 Правілаў) і своечасова рабіць разлікі за выкананыя работы (п. 11.5 Правілаў).

У сваю чаргу, у адпаведнасці з п. 70 Правілаў карыстання газам у быце, газазабеспячэнцкая арганізацыя мае права спыніць забеспячэнне газам спажыўца газу ў выпадку:

– парушэння спажыўцом патрабаванняў правілаў;

– адмовы ад правядзення тэхнічнага абслугоўвання газавага абсталявання;

– не забеспячэння доступу ў жылыя і нежылыя памяшканні на выкананне ўсіх відаў тэхнічнага абслугоўвання газавага абсталявання.

МВУ "Маладзечнаміжрайгаз" выконвае работы па тэхнічным абслугоўванні, згодна з зацверджанымі графікамі. Па ўсіх пытаннях звяртайцеся па тэл. **162, 738469.**

Нагадваем, што пры спальванні прыроднага газу выдзяляюцца прадукты гарэння, сярод якіх вокіс вугляроду, або чадны газ – ён нябачны і не мае паху. Пры рабоце праточнага воданагравальніка або ацяпляльнага катла чадны газ выходзіць у спецыяльна абсталяваныя коміны. Аднак калі ў коміне адсутнічае цяга, то прадукты згарання трапляюць у памяшканне. У такім выпадку людзі, якія знаходзяцца ў кватэры, адчуваюць стомленасць, у іх кружыцца галава, хочацца прылегчы. Калі своечасова не спыніць паступленне чаднага газу ў памяшканне і не забяспечыць прыток свежага паветра, чалавек можа памерці ў сне.

**ВАЖНА ВЕДАЦЬ!** Дымавыя і вентыляцыйныя каналы, незалежна ад іх канструкцый, трэба перыядычна правераць і чысціць у працэсе эксплуатацыі: коміны ацяпляльнага газавага абсталявання незалежна ад матэрыялу – перад ацяпляльным сезонам; дымавыя каналы цагляныя – не радзей аднаго разу ў квартал; вентыляцыйныя каналы, дымавыя каналы азбестацэментныя, ганчарныя, а таксама зробленыя з спецыяльных блокаў цеплатрывалага бетону – не радзей за адзін раз у год.

У зімовы час не радзей за адзін раз у месяц, а таксама ў перыяды рэзкага паніжэння тэмпературы вонкавага паветра ўласнікі жылых дамоў павінны праводзіць агляд агалоўкаў дымавых каналаў у мэтах прадухілення іх абмярзання і закаркоўвання.

Пры адсутнасці актаў праверак, выкананых спецыялізаванымі арганізацыямі, або запісаў у журналах рэгістрацыі аб выкананні работ па праверцы стану дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнцкая арганізацыя ў мэтах прадухілення аварый і няшчасных выпадкаў мае права адключыць газавае абсталяванне ад газаразмеркавальнай сістэмы і газаспажывання.

Па пытаннях праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў звяртацца ў Маладзечанскае пажарна-выратавальнае дэпо па адрасе:

**г. Маладзечна, вул.Багдановіча, д.20, тэл. 739225 або ПУП "Пажарны сэрвіс" па тэл. 745623, маб. 8 029 2565642.**

Інфармацыю аб наяўнасці акту праверкі можна перадаць па тэл. **765171.**

МВУ "Маладзечнаміжрайгаз"
УНП 100008077

СВЯТЫ

# Да майстроў у Камарова

**МЯДЗЕЛ. У Камарове на Мядзельшчыне 21 чэрвеня прайшла выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў "Камарова – кола дзён". Свята гэта стала для вёскі традыцыйным – адбывалася ў дзявяты раз.**



Фота забяспечана Ларысай Рабянюк.

Увагу юных наведнікаў свята прыцягвалі дэкаратыўныя калёсы.

Традыцыйна размясціліся майстры ў былым графскім парку. Тут сабраліся разьбяры, ганчары, майстры выцінанкі, умельцы ствараць прыгожыя рэчы і з бязважкай саломкі, і з трывалага жалеза...

– На свята прыехалі майстры не толькі з Мядзельшчыны і суседніх Пастаўшчыны, Смаргоні і Астраўца, а і з Полацка, Валожына, Гродна, Оршы, Маладзечна, Слоніма, Міра, Браслава, Магілёва, Мінскага раёна, – расказала бухгалтар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Наталля Нагорная**. – На святе паказалі свае вырабы таксама пастаяльцы, якія жывуць у Свірскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых. Вырабы майстры паказалі разнастайныя. Напрыклад, з Івацэвічаў прывезлі прыгожыя рэчы з дрэва: арэлі, сталы, шэзлонгі, млын. І адзенне з беларускага лёну можна было набыць.

Многія майстры прыязджаюць на свята пастаянна. Вось як майстар **Раман Шаша** з Крывічоў:

– Разам з іншымі крывіцкімі майстрамі едзем сюды не толькі сябе паказаць, але і на іншых паглядзець. На свята прыязджаюць розныя майстры, у якіх свае цікавыя накірункі працы. Так што, для нас гэта як агляд мноства відаў рамёстваў, – падзяліўся ён. – Ды і забаўляльная праграма на святе добрая, цікава паглядзець.

Як заўсёды, шмат людзей спынялася ля ганчара з Пастаўшчыны **Сяргея Шчэрбы**: паназіраць, як з кавалка гліны залатыя рукі майстра імкліва ствараюць прыгожыя вырабы. Самыя смелыя маглі паспрабаваць свае сілы і зрабіць гарлачык ці талерачку – асабліва стараліся дзеці. Не хавалі свае сакрэты і іншыя майстры: шчодра дзяліліся імі падчас майстар-класаў.

На кірмашы, апроч звыклых шашлыкоў і бліноў, прадавалі вясковыя пачастункі: мёд і сыр. Клінковы сыр уласнай вытворчасці разышоўся умомант.

У канцэртнай праграме выступілі артысты з Мядзельшчыны. Было шмат забаў для дзяцей, конкурсы з прызамі. Упершыню на святе наладзілі катанне на кані.

А ўвечары жыхароў вёскі і самых цярплівых гасцей чакала фаер-шоу – артысты з Мінска на дваццаць хвілін яркім вогненным шоу расквецілі вечаровае Камарова.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

**Факты пра 1000**

На пачатку 1997 года ў Камарове жыло крыху больш за 1000 чалавек.

ФОРУМ

# Пра тых, хто быў добрым суседам...

## У Гарадку прыгадалі яўрэйскую гісторыю мястэчка

**МАЛАДЗЕЧНА. У дні 73-й гадавіны нападу Германіі на СССР 21-22 чэрвеня ў Гарадку, што пад Маладзечнам, адбыўся адкрыты Міжнародны форум, прысвечаны трагедыі знішчэння яўрэяў.**

Пасля вайны засталася толькі трагічная памяць, пустуючая сінагога, закінутыя яўрэйскія могілкі ды помнік ахвярам – 720 забітых і спаленых фашыстамі яўрэяў.

– Гарадок – гэта толькі адно з мястэчак, якое лічыцца яўрэйскім, – кажа нямецкі дырэктар Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёхана Рау **Вольга Рэнш**. – Па ініцыятыве кіраўніка Цэнтра культуры і побыту **Таццяны Смолік**, з падтрымкі гістарычнай майстэрні пры Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры мы і збіраемся, каб абмеркаваць пытанні аднаўлення багатага гістарычнага мінулага Гарадка.

У рамках форуму адбыліся прэзентацыі, дыскусіі, майстар-класы. Прайшлі пешая экскурсія і паказ фільма "Туфлік". Прысутныя абмеркавалі, якім чынам можна ўшанаваць памяць яўрэяў, якія жылі ў Гарадку.

**Насельніцтва ў Гарадку:
У 1901 годзе – 2 500 чалавек
У 1921 – 1 420 чалавек
У 2006 годзе – 480 чалавек.**

### З гісторыі Гарадка

- Першае пісьмовае ўпамінанне аднасіцца да 1162 года.
- У 1863 годзе Каміла, дачка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, арганізавала ў мястэчку школу для дзяцей бедных.
- З канца 19 стагоддзя да пачатку 1940-х гадоў большай часткай мясцовага насельніцтва былі яўрэі.
- У канцы 19 – пачатку 20 стагоддзя ў Гарадку было 25 лавак, 12 корчмаў, заезны двор, пошта, аптэка, тры скураныя заводы, тры заводы па вырабе глінянага посуду, вытворчасць мінеральнай і газіраванай вады, народнае вучылішча. Штотыдзень, па аўторках і серадах, праходзілі кірмашы.

### Яўрэі ў памяці мясцовых

Сярод мясцовых жыхароў ёсць тыя, хто памятае яўрэяў як сваіх суседзяў і сяброў.

– Насілі малако ў літровых бутэльках і кідалі пад брамку яўрэям, мама іх і карміла, – кажа жыхарка Гарадка **Валянціна Мяцеліца**. – А адна яўрэйка прыходзіла да нас шыць, яна так зараблялa. Прыйдзе раніцай, а ўвечары толькі сыходзіла.

– Яўрэі вельмі дружныя і добрыя людзі, нічога дрэннага пра іх не скажу, – працягвае Валянціна. – Памятаю і як палілі яўрэяў. Наша мама моцна перажывала за нас, не пускала на вуліцу, каб не забралі разам з яўрэйскімі дзецьмі, бо немцы не разбіраліся, хто ты і чый. Як пачалася вайна, усіх яўрэяў і беларусаў сагналі на плошчу ў Гарадку, дык аднаго яўрэйчыка адразу забілі за тое, што ён нешта сказаў немцу. У той момант мама мяне хутчэй схавала, каб я гэтага не бачыла, усе разбегліся, было так страшна. Аднаму старому яўрэю накінулі вяроўку на шыю і цягнулі, потым выкапалі вялікую магілу і ўсіх, каго пастралялі, закапалі. Разам былі і старыя яўрэі, і зусім немаўляткі. Плакалі ўсе.



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Валянціна Мяцеліца, жыхарка мястэчка Гарадок.

### Махалі рукой, калі везлі паліць

– Яўрэі былі добрымі суседзямі, мы з імі сябравалі, – расказвае другая сведка знішчэння яўрэяў **Ванда Калыска**. – Адзін аднаму дапамагалі ў цяжкія моманты. Напрыклад, калі дзіця захварэе, дык яўрэі і падарункі насілі, і лекі розныя. Памятаю, як мы ў школу хадзілі. Школы былі ў нас розныя. Размаўлялі паміж сабой усе на беларускай мове. З яўрэйскімі дзецьмі мы не толькі гулялі, але і дзяліліся ежай. Мы ім насілі сала, а яны нам – мацу. Ім чамусьці не дазвалялі есці сала, а яны вельмі любілі яго. Хаваліся ад сваіх бацькоў і з такім апетытам частаваліся нашым далікатэсам. А вось калі гета аддзялілі, то з дзецьмі мы ўжо не маглі гуляць, а бацькі баяліся адпускаць нас на вуліцу. А потым бачыла, як гэтых дзетак, з якімі мы сябравалі, везлі паліць. Мы плакалі, галасілі, а дапамагчы нічым не маглі. А яны толькі махалі нам рукамі.

Вольга ЮРКЕВІЧ.



Фота Беркі Бермана з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея.

Паводка ў Вілейцы. Разлілася Пляснянка, прыток Віліі. 1930 год. Фота Беркі Бермана.

ГІСТОРЫЯ

# Вуліца, што захоўвае гісторыю горада

**ВІЛЕЙКА. У горадзе 2 ліпеня адзначаць свята вуліцы Савецкай.**

Чым гэта вуліца такая адметная, што ёй вырашылі прысвяціць свята, расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

## Ад Мінскай да Савецкай

**– Пачнём з гісторыі вуліцы...**

– Вуліца Савецкая з'яўляецца самай старой вуліцай горада. Само мястэчка размяшчалася ў раёне Свята-Георгіеўскай плошчы (цяперашняй плошча Свабоды), а на высокім беразе Віліі (цяпер – каля гарадскога парку) быў маёнтак, ці, як тады яго называлі, – двор старасты.

Ад плошчы, на якой у 1775 годзе замест старой была пабудаваная новая ўніяцкая царква (на тым месцы ў 2001 годзе ўзведзеная капліца ў гонар двухтысячагоддзя нараджэння Хрыста), разыходзілася некалькі вуліц без назваў. У інвентары Вілейскага староства за 1789 год цяперашнюю вуліцу Савецкая ахарактарызавалі так: вуліца ад царквы да двара была вельмі кароткай. Тут пражываў толькі прышлы каваль Тадэвуш Загорскі ў казённым доме і яўрэй Хаім ва ўласным.

У 1795 годзе ўказам імператрыцы Кацярыны II Вілейка атрымала статус павятовага горада і ў ёй на правым баку ракі Пляснянкі пачалі ўзводзіць новыя будынкі, дзе размяшчаліся павятовыя ўстановы, паштовая станцыя. Апошняя была якраз на паштовай дарозе з губернскага горада Мінска ў павятовую Дзісну. Потым вуліца ад уніяцкай царквы да двара атрымала назву Мінска-Дзісенская і засталася Мінская.

Разрастаўся горад. Актыўна, як галоўная, забудоўвалася Мінская вуліца. Ёй пасля забойства ў 1881 годзе імператара Аляксандра II прысвоілі яго імя – стала вуліца Аляксандраўскай. Не раз яна яшчэ мяняла назву. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года стала называцца Вялікай. За польскім часам вуліца насіла імя кіраўніка польскай дзяржавы Юзэфа Пілсудскага. На ёй размяшчаліся гімназія імя Генрыка Сянкевіча, банк, казначэйства, рэстараны і гатэлі. У асноўным, гэта была такая гандлёвая вуліца: вельмі шмат крам тут месцілася. Далучэнне ў 1939 годзе Заходняй Беларусі да БССР прывяло да перайменавання практычна ўсіх вуліц горада. Тады і з'явілася ў горадзе Савецкая. Толькі ў гады нямецкай акупацыі вуліца называлася Беларускай, а ў 1944 годзе вяртае ранейшую назву.

**– Для Вілейкі што значыць вуліца Савецкая?**

– У ёй – поўная гісторыя горада. Бо ўсё асноўнае, што адбывалася ў горадзе – ці свята, ці кірмаш, – тым ці іншым бокам закранала гэту вуліцу. Кірмаш быў на плошчы, але ж людзі, вядома, прыходзілі, збіраліся тут.

## "Плавалі і лазні, і людзі, і коні"

**– Вас чым зацікавіла гісторыя гэтай вуліцы?**

– Я жыву ў доме на гэтай вуліцы, таму яе гісторыя мне вельмі цікавая.

**– І які перыяд з гісторыі вуліцы вам найбольш цікавы?**

– Перыяд 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя, калі Вілейка была пад Польшчай. Тут было шмат цікавых падзей. Пра многае расказаў старажыл **Аляксандр Маліноўскі**, які нарадзіўся і жыве на вуліцы Савецкай 91 год. Прыгадвае ён, як у 30-х гадах у Вілейцы здарылася такая паводка, што "плавалі і лазні, і людзі, і коні". Нават ёсць фотаздымак, зроблены вілейскім фатографам Беркам Берманам.

Аляксандр Канстанцінавіч успамінае тых яўрэяў, якія тут жылі. Напрыклад, у доме, дзе я жыву (Савецкая, 56), у той час жыў яўрэй Хай. Ён меў каня, ездзіў па вёсках і прадаваў селядцы і мыла.

На плошчы Свабоды (у раёне залы выстаў) месцілася карчма, у якой збіралася сярэдняе кола насельніцтва горада, пілі гарбату і гутарылі.

У будынку, дзе цяпер "Белтэлекам", была гасцініца. У раёне ЗАГСа таксама знаходзілася гасцініца. І банк размяшчаўся па вуліцы Савецкай.

На месцы, дзе зараз ваенкамат, жылі кавалі Хаім і Перац. Далей ад ваенкамата з левага і правага боку месціліся крамы, якія трымалі яўрэі. Памятае старажыл, як зазывалі да сябе у магазін "Хадзі ка мне!..." Яўрэі тут здымалі дом і гандлявалі, а жылі ў іншым месцы.

На вуліцы Савецкай жыў і Путс: рабіў кілбасы, вэндзіў іх і прадаваў. Добрыя кілбасы былі дарагія, а абрэзкі з кілбас таннейшыя, іх маглі купіць бяднейшыя людзі.

На кватэры ў суседзяў **Аляксандра Маліноўскага** быў майстар, які рабіў помнікі з каменю ў выглядзе дрэва. І адзін помнік стаяў каля варот як рэклама. Помнік выразалі з цэлага каменю.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АНОНС

## На вуліцы Савецкай сустрэнуць гістарычныя персанажы

**ВІЛЕЙКА.** Свята-фэст "Ад царквы да двара" пройдзе 2 ліпеня. Прысвячаецца яно вуліцы Савецкай. Пачнецца свята ў 15 гадзін на плошчы Свабоды, паведаміла намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо.**

Гасцей сустрэнуць гістарычныя персанажы на шматлікіх пляцоўках: фотамайстэрня вядомага вілейскага фатографа Беркі Бермана, яўрэйская сям'я, карчма, горад майстроў, партызанскі лагер ды іншыя.

Запрацуюць гандлёвыя пляцоўкі. Пройдзе пленэр мастакоў.

Ля ЗАГСа пакажуць вясельны абрад. Там жа адбудзецца святочны канцэрт.

Да свята выпусцяць адмысловую газету, якая ўся прысвечаная вуліцы Савецкай.

**Аддзел інфармацыі.**

КОНКУРС

## Мастацкая школа ўзнагародзіць пераможцаў конкурсу

**МАЛАДЗЕЧНА.** У дзіцячай школе мастацтваў падведзеныя вынікі рэгіянальнага конкурсу дзіцячага малюнка, прысвечанага 70-годдзю з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Урачыстае ўзнагароджанне пераможцаў адбудзецца 4 ліпеня ў а 14 гадзіне ў выставачнай зале Палаца культуры.

На конкурс былі прадстаўленыя работы з 22 устаноў Маладзечанскага раёна, з дзіцячых школ мастацтваў са Смаргоні, Валожына, Вілейкі, Івянца, Любані, Вішнева, Узды і іншых мастацкіх устаноў. Каля 150 малюнкаў вынеслі юныя мастакі на суд журы, у склад якога ўвайшлі **Рыгор Мяжуеў і Васіль Лазоўскі**, члены Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, **Святлана Міцкевіч**, настаўніца выяўленчага мастацтва Лебедзеўскай ДШМ.

Малюнкі былі выкананыя ў розных тэхніках (жывапіс, графіка, выцінанка) і рознымі матэрыяламі (фарбамі, алоўкамі, гелевай ручкай, пастэллю).

Пераможцамі конкурсу сталі:

Старэйшая група: 1-е месца – **Ксенія Быліна** з Уздзенскай ДШМ, 2-е месца – **Стэфан Бабін** з Маладзечанскай ДМШМ, 3-е месца – **Вікторыя Раткевіч** з Астравецкага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.

Сярэдняя група: 1-е месца – **Дзяніс Быкаў** са Смаргонскай ДШМ, 2-е месца – **Глеб Грымаць** з Лебедзеўскай ДШМ, 3-е месца – **Марыя Кулік** з Дорскага філіяла.

Малодшая група: 1-е месца – **Сафія Пахомава** са Смаргонскай ДШМ, 2-е месца – **Мар'ян Прыемка** з Валожынскай ДШМ, 3-е месца – **Вадзім Жамоздзік**, Валожынская ДШМ.

Гран-пры атрымала **Веранiка Ракоўская** з Маладзечанскай ДМШМ.

**Аддзел інфармацыі.**

## Факты пра 1000

**1000 секунд** у 16 хвілінах і 40 секундах.
**1000 хвілін** у 16 гадзінах і 40 хвілінах.
**1000 гадзін** у 41 дні.
**1000 дзён** у 2 гадах і сямі месяцах.
Гэта тысячы магчымасцяў паспець здзейсніць задуманае.

КРАЯЗНАЎСТВА

# "Вілейскі павет": працяг будзе

**ВІЛЕЙКА. "РГ" паведамляла, што выйшаў з друку гісторыка-краязнаўчы гадавік "Вілейскі павет". Як да выдання зборніка падштурхнуў недахоп кніжак пра Вілейшчыну і калі чакаць наступны нумар?**


Сяргей Макарэвіч.

Фота забяспечана Сяргеем МАКАРЭВІЧАМ.

Пра ўсё гэта раскажа адзін з укладальнікаў гадавіка – ураджэнец Вілейкі, журналіст і краязнаўца **Сяргей Макарэвіч.**

**– Як узнікла ідэя гадавіка?**

– Усё пачалося яшчэ са школы. Калі вучыўся ў старэйшых класах, разам з сябрамі пачалі выдаваць самвыдат "Волат" – краязнаўчую газету фармату А4. Яна выходзіць і цяпер, робяць яе іншыя людзі. Я прымаю ўдзел у працы над "Волатам" гадоў шэсць. А пасля адышоў: хацелася росту, рабіць нейкі праект з іншым падыходам. У 2012 годзе выдаў сваю краязнаўчую кніжачку. Спадабалася. А паколькі наступную ўласную кнігу буду пісаць яшчэ доўга, то вырашыў рабіць зборнік пра Вілейшчыну, паспрабаваць аб'яднаць як мага больш краязнаўцаў і гісторыкаў. Хаця найбольш падштурхнула тое, што пра маю родную Вілейшчыну надта мала кніжак выходзіла.

**– Матэрыялу шмат назбіралася? Ці была праблема выбару: каб самае цікавае патрапіла ў зборнік?**

– Акурат наадварот. Паколькі выхад першага выпуску шырока не анансаваўся, даводзілася самому звяртацца да аўтараў і прасіць іх напісаць, шукаць матэрыялы, якія можна пераkласці. Дапамагаў **Дзяніс Канецкі**, які жыве ў Вілейцы, з мясцовымі краязнаўцамі кантактаваў таксама.

Хацелася зрабіць першы выпуск, каб пасля пра сябе заявіць і паказаць, што мы вось такое робім. Бо нехта мо, паставіцца б скептычна, калі б я адразу сказаў: "Напішыце для кнігі". А так можна паказаць ужо вынік.

**– Пэўна, цяжкавата вызначыць, але якія, на ваш погляд, найцікавейшыя матэрыялы гадавіка?**

– Ведаеце, матэрыялы розныя. Канешне, не ўсім аднолькава цікава будзе чытаць усе тэксты. Хтосьці не любіць чытаць пра этнаграфію, абрады, іншыя проста не пераносяць успаміны – гэта справа густу. Але кожны тэкст нясе ў сабе інфармацыю пра наш край. Для мяне вялікім адкрыццём сталі ўспаміны **Уладзіміра Папковіча**. Я сябрую з ім гадоў шэсць-сем, шмат чаго ведаю з яго жыцця. І не ўспрымаў яго такой натурай мяккай, мо, сентыментальнай нават. А ён напісаў на маю просьбу такія пранікнёныя ўспаміны! Цяпер каторы месяц прашу яго скончыць іх, бо ў кнізе яны публікуюцца да пэўнага перыяду.

Цікава будзе прачытаць кніжку праваслаўнага святара **Івана Шалепіна**, якая выйшла ў 1896 годзе. Маленькае выданне, у якім апісана Вілейка таго часу. Канешне, трэба разумець, што пісалася кніга з пазіцый самадзяржаўя, але там столькі дэталяў цікавых!

**– Пазнака "Выпуск 1" на вокладцы падказвае, што будзе працяг...**

– Працяг робім. Першы выпуск нам дапамог зрабіць дабрачынны фонд "Вяртанне" і персанальна яго заснавальнік мецэнат **Павел Берагавіч**. Ён выказаў намер дапамагчы і з наступным выпускам. Цяпер праца за мной, як каардынатара і натхняльніка. Падрыхтоўка да другога нумара ідзе. Ён будзе больш разнастайны, на больш старонак. Новы выпуск зроблены старонак на 80-100, агульны аб'ём плануецца яшчэ большы. Да працы падключаны навукоўцы з Гродна і польскага Уроцлава. Таксама заклікаю зацікаўленых пісаць нам. Калі вы маеце матэрыялы, звязаныя з Вілейшчынай, можаце дасылаць ужо цяпер (электронны адрас – viliejskipaviet@gmail.com). Хочаце падзяліцца гісторыяй свайго роду – пішыце. Бо гісторыя краю складаецца менавіта з жыццяў кожнага з нас.

**– Дзе ж можна набыць гадавік?**

– Ён ужо прадаецца ў кнігарні "Галіяфы" ў Мінску (вуліца Валградская, 6). У бліжэйшы час гадавік будзе даступны ў інтэрнэт-кнігарні prastora.by. Спадзяюся, што зможам дамовіцца з "Белкнігай", каб яны ўзялі кніжку для рэалізацыі праз сваю сетку. І тады "Вілейскі павет" з'явіцца і ў Вілейцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Выйдзе другі выпуск "Вілейскага павета" толькі ў наступным годзе. Трэба вытрымліваць паўзу. Калі выдаваць адзін выпуск за адным, чытач перастане яго чакаць з хваляваннем. І страціць увагу да нас.**

**Факты пра 1000**

Перапрацоўка 1000 кілаграмаў (адной тоны) макулатуры ратуе 10 дрэў, эканоміць 20 тысяч літраў вады, тысячу кілават электраэнергіі і папярэджвае выкід 1700 кілаграмаў вуглякіслага газу.

**Прэзентацыя гадавіка**

28 чэрвеня а 13 гадзіне адбудзецца прэзентацыя гадавіка "Вілейскі павет" у Мінску ў кнігарні "Галіяфы". Сярод удзельнікаў будуць **Уладзімір Папковіч, Барыс Сымон, Алесь Наркевіч, Сяргей Макарэвіч, Дзяніс Канецкі**.

ПАЛЯВАННЕ, РЫБАЛОЎСТВА

# За незаконна здабытага лася заплаціш 45 мільёнаў рублёў

**Ад 26 чэрвеня ўступілі ў сілу новыя рэдакцыі Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання і Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства.**


Малюнак pesik.getbb.ru

**Уводзіцца абмяжаванне: не болей за 5 крючкоў.**

Таксама зацверджаны таксы для вызначэння памеру кампенсацыі шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ў выніку незаконнага здабывання або знішчэння дзікіх жывёл і шкоднага ўздзеяння на асяроддзе іх пражывання.

**У сярэднім таксы за незаконную здабычу дзікіх жывёл павялічаныя ў тры разы.**

Пры незаконнай здабычы аленя высакароднага, лася неабходна будзе выплаціць 300 базавых велічынь (45 мільёнаў рублёў), а за дзіка і казулю – 18 мільёнаў рублёў (120 базавых велічынь). Пры незаконнай здабычы рыбы за аднаго акуня, плотку неабходна будзе выплаціць 150000 рублёў (адна базавая велічыня), за аднаго шчупака, ляшча – 450000 рублёў (тры базавыя велічыні), за аднаго вугра – 2250000 рублёў (15 базавых велічынь).

Новай рэдакцыяй унесены шэраг змяненняў і дапаўненняў у існуючыя правілы.

У новай рэдакцыі правілаў палявання ўстаноўлена патрабаванне неабходнасці мець адзнаку ў картцы аб выплаце дзяржпошліны або квіток аб яе выплаце.

У правілах ёсць абмежаванні па знаходжанні з паляўнічай зброяй у паляўнічых угоддзях. Забараняецца выкарыстанне і нашэнне патронаў з куляй і карцеччу пры паляванні на дробную дзічыну. Ёсць тлумачэнні, што з'яўляецца шротам і карцеччу. Карцеч – гэта металічныя шарыкі дыяметрам больш за пяць міліметраў. Чакае крымінальная або адміністрацыйная адказнасць за знаходжанне ў паляўнічых угоддзях і на дарогах з прадукцыяй палявання без дакумента, які пацвярджае права яе набыцця.

### Лавіць рыбу па-новаму

Таксама ёсць значныя змены ў Правілах вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Уводзіцца абмежаванні па выкарыстанні прылад рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў. Так, калі раней дазвалялася выкарыстоўваць да 10 кручкоў, то па новай рэдакцыі правілаў уводзіцца абмежаванне да пяці. Дадзеныя абмежаванні не адносяцца да вадаёмаў фонду запасу, гэта значыць, не арандаваныя. На такіх вадаёмах будзе дазволена выкарыстоўваць да 10 кручкоў, падводнае паляванне і тролінг (лоўлю рыбы на дарожку з выкарыстаннем матора), але толькі для сяброў Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Трэба мець на ўвазе, што на некаторыя вадаёмы мясцовымі органамі ўлады будуць накладзеныя абмежаванні. Уся неабходная інфармацыя па забароне і абмежаванні будзе размяшчацца на сайтах Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету і мясцовых органаў улады, а таксама ў сродках масавай інфармацыі.

Забараняецца лоўля рыбы з выкарыстаннем гурткоў, ставак, жэрліц, калабашак ў начны час, а таксама без ўказання на іх прозвішча і ініцыялаў рыбалова і пакіданне іх без візуальнага кантролю.

Зменена прамысловая мера для шчупака (40 см) і сазана (20 см). Уводзіцца забарона на лоўлю судака з 15 красавіка па 30 мая.

Падчас вясновага абмежавання на лоўлю рыбы дазваляецца лавіць у светлы час сутак адной вудай ці спінінгам з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, а таксама са штучных збудаванняў.

Тлумачэнні па правілах можна атрымаць у Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету па тэлефоне **8-01797-50740.**

**Вячаслаў МІНЯНКОЎ,**
**дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

**Факты пра 1000**

1000 базавых велічынь (гэта 150 мільёнаў рублёў) – столькі трэба будзе заплаціць, калі незаконна здабудзеш лася, высакароднага аленя, дзіка, казулю, 10 вугроў і 10 акунёў.

● АДЗІН У АДЗІН

# Фізрук: у кіно і ў жыцці

## Ці падобныя сапраўдныя настаўнікі да серыяльных?

**МАЛАДЗЕЧНА. У кіно нам паказваюць розных людзей розных прафесій: дактароў, следчых, настаўнікаў. А што калі параўнаць серыяльнага фізрука з сапраўдным?**

Папулярны цяпер серыял "Фізрук" набывае ўсё больш і больш прыхільнікаў. Харызматычны фізрук, былы ахоўнік у важнага чалавека, уладкоўваецца ў звычайную школу настаўнікам фізкультуры. Праўда, на ўроках паводзіць сябе зусім не як настаўнік: дае мянушкі дзецям, лаецца. Але і дапамагае ім у іх няпростых сітуацыях, з якімі сутыкаюцца ўсе падлеткі: каханне, сяброўства, сумленне, здрада.

Знешні выгляд фізрука таксама зусім не падобны да кананічнага. Ён не носіць спартыўны касцюм. На шыі ў яго няма ні свістка, ні секундамера. У спартыўную залу ён прыходзіць у скураной куртцы і дарагіх лакавых туфлях. І яшчэ адна дэталь, на якую адразу звяртаеш увагу, – гадзіннік, які ён носіць не на руцэ, а ў руках.

Пасля прагляду чарговай серыі ўзнікла пытанне: а ці бываюць такія фізрукі ў рэальным жыцці, у рэальных школах ці гімназіях?

**Максім Васільеў**, настаўнік фізкультуры СШ №7, трэнер па плаванні ў Лядовым палацы, пагадзіўся пракаментаваць серыял з пункту гледжання чалавека, які ведае пра прафесію фізрука ўсё.

**– Максім, ці параўноўвалі вы сябе з фізруком-Нагіевым, калі глядзелі серыял?**

– Я ж не лысы. А так, вядома, параўноўваў. Не, я не такі. Хаця ў нечым хочацца быць падобным. Напрыклад, мець машыну "Гелендваген".

**– Якія агульныя рысы ў сябе і ў серыяльнага фізрука, магчыма, знаходзілі?**

– Агульнае, у адносінах да дзяцей. Не, не ў тым, што я іх абзываю, а ў тым, што калі яны звяртаюцца да мяне па дапамогу – я, канешне, дапамагаю.

А сітуацыі розныя былі. Бывала, што і выгароджваць дзяцей здаралася, і абараняць. Але больш даводзіцца выслухоўваць, раіць, як зрабіць у тым ці іншым выпадку.

**– Ці было такое, што вы сваім вучням давалі мянушкі?**



Фота забяспечана Максімам ВАСІЛЬЕВЫМ.

**Максім Васільеў, настаўнік фізкультуры СШ №7, трэнер па плаванні ў Лядовым палацы. На фота зверху – Дзмітры Нагіеў, акцёр, які сыграў ролю настаўніка фізкультуры ў серыяле "Фізрук".**

– Ёсць такі грэх. Бывае, што дзеці такое адмочаць, што мянушка прыліпае сама сабой. У розны час у мяне ў класе вучыліся Какос, Барабаншчык, Федзя, Галубец…

**– У Нагіева шмат "прышпільных" выразаў, ці ёсць такія слоўцы ў вас?**

– О, так. Ужываю некаторыя выразы Алега Яўгенавіча: "Давай без рук. Канешне, без рук, я ж фізрук". І сам жартаваць з вучнямі люблю. Бывае, заходжу ў клас, вітаюся: "Прывітанне, дзяўчаты". Звычайна адказваюць усе. А потым дадаю: "І хлопцы, прывітанне". Гэта дапамагае разрадзіць атмасферу, зняць суровасць перад урокам.

**– Калі падагуліць, то ці можа быць такі фізрук у сапраўдным жыцці?**

– А хто яго ведае? Як жыццё падказвае, усё магчыма. Але ў серыяле гэта ўсё гіпербалізавана, афарбавана, плюс выдатная гульня прафесійных акцёраў.

**Наталля ТУР.**

● ФУТБОЛ

## "Маладзечна-2013" прайграе "Крумкачам" з лікам 4:5

**МАЛАДЗЕЧНА. Гульня восьмага тура другой лігі чэмпіянату краіны скончылася для каманды "Маладзечна-2013" паражэннем.**

У нядзелю, 22 чэрвеня, ФСК "Маладзечна-2013" супрацьстаяў камандзе з Мінска з цікавай беларускай назвай "Крумкачы".

У першым тайме маладзечанцам гульня далася цяжка. На 13-й хвіліне матча, праз памылку варатара маладзечанцаў **Вадзіма Хмяльніцкага,** "Крумкачы" адкрываюць лік сустрэчы.

Праз 15 хвілін разрыў у ліку павялічваецца.

Трэнер ФСК "Маладзечна-2013" **Дзмітры Ганчароў** робіць першую замену. На змену Вадзіму Хмяльніцкаму выходзіць **Павел Мілеўскі.**

Першы тайм заканчваецца з лікам 2:0 на карысць мінчан.

Перапынак, відаць, пайшоў маладзечанцам на карысць, і другі тайм амаль адразу пачынаецца з гола **Андрэя Шаблінскага.**

Гэты гол, калі так можна сказаць, разбудзіў маладзечанцаў, гульня пайшла больш дынамічная і драматычная. Імпэт гаспадароў сустрэчы не спыніў нават трэці мяч, які апынуўся ў варотах Паўла Мілеўскага.

Літаральна праз тры хвіліны Андрэй Шаблінскі афармляе дубль, і разрыў у ліку зноў памяншаецца – 2:3.

Гульнёй у "Кошкі-мышкі" можна назваць нядзельны матч. "Крумкачы", не даючы апомніцца камандзе з Маладзечна, павялічваюць разрыў у ліку – 2:4.

Гулец каманды "Маладзечна-2013" **Сяргей Тарчыла** на 75-й хвіліне матча забівае трэці мяч у вароты мінчан. І адразу ж "Крумкачы" адказваюць пятым голам у вароты маладзечанцаў.

Трыбуны, і да гэтага не надта запоўненыя, пачалі радзець, аматары пачалі сыходзіць са стадыёна, на табло ідзе адлік апошняй хвіліны матча, калі раптам каманда-сапернік сама сабе забівае гол у вароты. Гулец і варатар "Крумкачоў" так і застаўся сядзець у варотах, калі з трыбунаў ад аматараў маладзечанцаў да іх данеслася: "Дзякуй вам вялікі".

Пасля гульні трэнер ФСК "Маладзечна-2013" Дзмітры Ганчароў быў нешматслоўны.

На просьбу пракаментаваць гульню адказаў: "Мы прайгралі. Пра што тут гаварыць? Гульня, у якой агулам забіваюць 9 мячоў, канешне, відовішчная, але радасці яна нам не прынесла. Першы тайм, кажучы шчыра, мы правалілі. У другім тайме занадта захапіліся атакай, тым самым забываліся пра контратакі. Пасля гэтай гульні ў мяне засталіся прэтэнзіі да абароны, будзем выпраўляць".

Наступная гульня пройдзе ў Жодзіне 29 чэрвеня супраць каманды "Тарпеда". Пачатак гульні ў 18.30.

**Наталля ТУР.**

### Факты пра 1000

**Больш за 1000** матчаў згуляў за сваю кар'еру Раберта Карлас, бразільскі футбаліст. Дарэчы, Карласу доўгі час належаў сусветны рэкорд па сіле ўдару і хуткасці палёту мяча – 198 км/г, які ў 2010 годзе быў пабіты нямецкім футбалістам Лукасам Падольскім – 201 км/г.

● НАВІНЫ

### "Смаргонь" зноў прайграла 0:1

**СМАРГОНЬ.** У чарговай гульні чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" прайграла. У 11-м туры смаргонцы 21 чэрвеня дома гулялі з мазырскай "Славіяй". Як і ў мінулым туры, "Смаргонь" мінімальна прайграла – 0:1. Гол гаспадары прапусцілі у канцоўцы матча, на 87-й хвіліне.

Таксама, як і ў мінулым туры, смаргонцы дагульвалі матч у меншасці: на 86-й хвіліне за грубую гульню другую жоўтую картку атрымаў **Халецкі.**

Паўабаронца "Смаргоні" **Павел Баскакаў** адказаў на пытанні fc-smorgon.by:

**– Гульня была да гола?**

– Так. Матч атрымаўся роўным, да гола – сустракаліся, так скажам, два адэпты беларускага футбола :).

**– Ці можна назваць гэта паражэнне самым крыўдным ў сезоне?**

– У нас усе паражэнні крыўдныя. Мы пакуль нікому не саступалі па гульні – усё вырашалася ва ўсялякіх стандартах ці ў якім-небудзь яшчэ глупстве.

**...Ні да каго прэтэнзій няма, усе добра згулялі?**

Не зусім добра, вядома, праблемы былі. Але са стопрацэнтнай упэўненасцю магу сказаць, што ўсе аддаваліся гульні, каціліся, біліся.

### "Смаргонь" згуляе з "Дняпром"

**СМАРГОНЬ.** У сталічным Доме футбола 17 чэрвеня прайшло лёсаванне 1/16 фіналу Кубка Беларусі па футболе. "Смаргонь" згуляе 26 ліпеня дома з магілёўскім "Дняпром". 1/16 фіналу Кубка Беларусі будзе разыграна з аднаго матча.

### Чэмпіянат вобласці: ачкі набралі толькі маладзечанцы

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** Змаганне ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе прадоўжылася ў суботу, 21 чэрвеня.

"Забудова-2007" у гасцях прайграла "Коласу" з Чэрвеньскага раёна з лікам 4:5.

"Валожын-2010" атрымаў тэхнічнае паражэнне за няяўку на гульню з "Маладзечна-ДЮСШ-4" 0:3.

У нядзелю "Вілія" з Вілейкі у гасцях гуляла з "Жодзіна-2007". Віляйчане прайгралі 3:4, прычым вырашальны гол прапусцілі ў самым канцы матча.

Пасля васьмі тураў у групе "А" "Маладзечна-ДЮСШ-4" займае другое месца, прытым мае аднолькавую колькасць ачкоў з лідарам – "Барысавам". "Забудова-2007" знаходзіцца на чацвертым, "Вілія" – на шостым месцы. "Валожын-2010" трывала акупаваў перадапошняе, дзявятае, месца.

### У турніры па міні-футболе перамаглі "Буддэталі" – як і летась

**ВІЛЕЙКА.** Другі паўфінал традыцыйнага турніру па міні-футболе на штучным пакрыцці прайшоў 18 чэрвеня. Каманда "Буддэталі" абыграла "Першы Беларускі" з лікам 5:1 і склала ў фінале пару "Рубіну".

Матч за першае месца прайшоў 21 чэрвеня. "Буддэталі" абыгралі "Рубін" з лікам 4:1 і, як і летась, сталі пераможцай турніру.

– У "Буддэталях" гуляюць больш дасведчаныя гульцы – за кошт доведу яны і выйгралі, – пракаментаваў фінальную гульню старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**. – Перавага ў матчы была за "Буддэталямі". Але ў маладых гульцоў "Рубіна" таксама было нямала галявых момантаў, яны дзве хвіліны ў большасці гулялі, аднак мяч не ішоў у вароты. А гульцы "Буддэталяў" на класе забівалі. Усё роўна футбалісты "Рубіна" трымаліся дастойна.

У гульні за трэцяе месца "Першы Беларускі" быў мацнейшы за "Юніёр" – 4:2.

Лепшым бамбардзірам турніру стаў **Ілля Палюховіч** з каманды "Рубін": на яго рахунку 16 галоў.

Вызначылі чатырох лепшых гульцоў турніру – па адным з кожнай наймацнейшай каманды. У пераможцаў ім стаў **Аляксандр Ярашэвіч**, у "Рубіне" – **Сяргей Яноўскі**, "Першым Беларускім" – **Максім Чабрыцкі,** "Юніёры" – **Віктар Сяліцкі.**

### Спаборнічаюць турысты з Беларусі і Расіі

**МЯДЗЕЛ.** Ад 25 чэрвеня па 1 ліпеня праходзіць турыстычны злёт навучэнцаў Саюзнай дзяржавы. Асноўныя яго падзеі праходзяць на беразе возера Швакшты на Мядзельшчыне. Прысвечаны злёт 70-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

У ім прымаюць удзел больш за 600 чалавек: гэта каманды з рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Што вы ведаеце пра лічбу 1000?**

Ведаю, што 1000 – тройчы круглая дата (10*10*10), і што гэта аснова беларускай фінансавай сістэмы. ***Nifeus.***

**Міністр культуры пабясцаў помнік Янку Купалу ў Маладзечне**

Даўно ўжо паставілі б і ўсе супакоіліся б. ***Ян.***

**Вядомы фільм "Туфлік" пакажуць у Гарадку на форуме "Гарадок і яго яўрэйская гісторыя"**

Выдатна, даўно хацела паглядзець гэты фільм! Ева.

**"Фарсаж" па-вілейску: у ансамблі вучаць не толькі танцаваць, а і сябраваць**

Добра, калі дзеці занятыя. Мяне бацькі не завялі ні ў секцыю, ні ў гурток. Вельмі шкадую. ***Вольга Р.***

**На Вілейшчыне так варылі курыцу, што спалілі дом і лазню**

То пельмені, то курыца… Я ўжо баюся чай заварыць, раптам успыхне. ***Повар.***

**Для чаго патрэбны бацька**

Бацька ці натхняе здзейсніць мару, ці забівае гэтае жаданне. І наогул, як казаў Хаўс, усе бацькі калечаць дзяцей. У першую чаргу тым, што не разумеюць сваю ролю. ***Інга.***

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Што трэба паспець за лета?

| | |
|---|---|
| 24%: | З'ездзіць туды, дзе ніколі не быў (не была) |
| 12%: | У мяне цэлы спіс: якія кнігі прачытаць, якія фільмы паглядзець |
| 12%: | Зрабіць рамонт |
| 12%: | Закахацца |
| 12%: | З'ездзіць на шашлыкі з півам |
| 18%: | Выспацца |
| 6%: | Зарабіць добрыя грошы |
| 6%: | Паступіць |

Усяго галасоў 17



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | | 8 | 9 | | |
| 6 | 5 | | | | | | 2 | |
| 8 | | 3 | | | 4 | 1 | | |
| 5 | | | | 1 | | | | |
| | 9 | | | | | | 4 | |
| | | | | 5 | | | | 9 |
| | | 6 | 3 | | | 7 | | 8 |
| | 7 | | | | | | 5 | 6 |
| | | 5 | 9 | | | 4 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 1 | 4 | 2 | 6 | 8 | 9 | 3 | 5 |
| 6 | 5 | 9 | 1 | 3 | 7 | 8 | 2 | 4 |
| 8 | 2 | 3 | 5 | 9 | 4 | 1 | 6 | 7 |
| 5 | 6 | 8 | 4 | 1 | 9 | 2 | 7 | 3 |
| 2 | 9 | 7 | 6 | 8 | 3 | 5 | 4 | 1 |
| 4 | 3 | 1 | 7 | 5 | 2 | 6 | 8 | 9 |
| 1 | 4 | 6 | 3 | 2 | 5 | 7 | 9 | 8 |
| 9 | 7 | 2 | 8 | 4 | 1 | 3 | 5 | 6 |
| 3 | 8 | 5 | 9 | 7 | 6 | 4 | 1 | 2 |

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




Фота Сяргея ЗЯНЬКО.

**З юбілею міліцыі Мінскай вобласці. Афіцэрскі сход міліцыянераў, прысвечаны 75-годдзю заснавання міліцыі Мінскай вобласці, прайшоў у Маладзечне ў Палацы культуры 21 чэрвеня. На пляцоўцы каля палаца ў гэты час была арганізавана выстава міліцэйскай тэхнікі розных часоў.**

## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

ПРЭМ'ЕРА! Фантастычны баявік "**Трансформеры: Эпоха знішчэння**", 3D (ЗША, Кітай, 2014, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26, 27 чэрвеня – у 18:00, 21:00
28 чэрвеня – у 21:00
29 чэрвеня – у 13:00, 18:00
30 чэрвеня – у 21:00
1 ліпеня – у 21:00
2 ліпеня – у 18:00, 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў

Камедыя "**Падарунак з характарам**" (Расія, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
28 чэрвеня – у 14:00
29 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 20 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Людзі Ікс: Дні мінулай будучыні**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26, 27 чэрвеня – у 15:30
28 чэрвеня – у 18:30
29 чэрвеня – у 21:00
30 чэрвеня – у 18:30
1 ліпеня – у 18:30
2 ліпеня – у 15:30
Кошт білета – 45 000-55 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Грань будучыні**", 3D (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу з 16 год)
28 чэрвеня – у 16:00
Кошт білета – 40 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Братва з джунгляў**" (Кітай, Канада, 2012, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26, 27 чэрвеня – у 16:00
28, 29 чэрвеня – у 15:30
30 чэрвеня - 2 ліпеня – у 16:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Меладрама, камедыя "**Цяпло нашых целаў**" (ЗША, Канада, 2013, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
26 чэрвеня – у 21:30
27, 28 чэрвеня – у 19:30, 21:30
29 чэрвеня – у 17:30, 19:30
30 чэрвеня - 1 ліпеня – у 21:30
2 ліпеня – у 19:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Камедыя, драма "**Золата**" (Расія, 2012, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год)
28 чэрвеня – у 17:30
29 чэрвеня – у 21:30
1 ліпеня – у 19:30
2 ліпеня – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
27-29 чэрвеня, 2 ліпеня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Госця**" (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 год).
27-29 чэрвеня, 2 ліпеня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Братва з джунгляў**" (Індыя, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў або педагога).
28, 29 чэрвеня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ГАРАСКОП
### (27 ЧЭРВЕНЯ – 3 ЛІПЕНЯ)



**Авен.** Перыяд мае шанцы стаць прыступкай на шляху да вашай запаветнай мары. Цяпер усё, пасеянае раней, абяцае даць усходы. Так што тых, хто доўга ішоў да сваёй мары, могуць чакаць прыемныя сюрпрызы.



**Цялец.** Вам у галаву прыйдзе мора ідэй, якія захочацца тут жа ўвасобіць у жыццё. Але нічога не рабіце на скорую руку.



**Блізняты.** Вы сустрэнеце людзей, з якімі зможаце пагаварыць на самыя сур'ёзныя і абстрактныя тэмы, накшталт чалавечай псіхікі, духоўнага развіцця, сакрэтаў Сусвету.



**Рак.** У вас прачнецца фінансіст! Ваш мозг будзе працаваць дакладна, аперавацъ лічбамі і фактамі. І калі ў вас будуць думкі, як палепшыць фінансавы стан, то на свет з'явіцца цудоўны план, які дапаможа ніздрэнна зарабіць. Смела плануйце адпачынак, рамонт, буйныя пакупкі.



**Леў.** Галава ваша будзе працаваць нестандартна, з'яўляючыся генератарам вялікіх ідэй. Дзяліцеся сваімі думкамі з навакольнымі, яны гэта зразумеюць і ацэняць. І ўвасабляйце ў жыццё.



**Дзева.** Каб пазбегнуць стрэсаў, не губляйце душэўнай раўнавагі. І жывіце па формуле: "Спачатку падумай, а потым зрабі"!



**Шалі.** У шмат каго ажыццявіцца запаветная мара, звязаная з далёкімі падарожжамі. Не будзьце абыякавыя да здароўя, каб пасля не прыйшлося адмовіцца ад сваёй мары дзеля лячэння.



**Скарпіён.** Зоркі прадказваюць вам духоўны пад'ём. Шмат хто зразумее, што жыў няправільна, пераасэнсуе сваё жыццё, даруе крыўды і сам папросіць прабачэння ў тых, каго пакрыўдзіў.



**Стралец.** Перыяд спрыяльны, без нейкіх там хваляванняў і трывог. Могуць вырашыцца праблемы, якія моцна трывожаць вас.



**Казярог.** Вам дастаткова зацікавіцца якой-небудзь справай, і тады ваша актыўнасці зможа пазайздросціць фрэгат, які ляціць на ўсіх ветразях.



**Вадалей.** Верце ў сваю шчаслівую зорку, смела крочце наперад, усе вашы планы з бляскам ажыццявяцца.



**Рыбы.** Вы можаце ўвасобіць у жыццё самыя смелыя планы і жаданні. Галоўны ваш вораг – сумненні. Пераадолейце іх, усё збудзецца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

**1000-ы нумар**

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


## НАДВОР'Е

**28 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +17 | | +10 / +17 | | +12 / +21 | | +18 / +24 | |
| | 739 | ↓ 3 | 744 | ← 3 | 735 | → 4 | 734 | ↑ 4 |
| Вільня | +10 / +16 | | +7 / +17 | | +12 / +21 | | +16 / +19 | |
| | 750 | ↘ 4 | 752 | ↖ 1 | 744 | ↑ 7 | 741 | ↗ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 4.41
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.10

Усход 6.08
Захад 21.59
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- У беларусаў-каталікоў – Пётра і Паўла (29 чэрвеня). "Святы Пётра ў косы звоніць, а святы Паўла граблі робіць".
- На Ціхана (29 чэрвеня) сонца ідзе цішэй. Змаўкаюць пеўчыя птушкі, акрамя салаўя.

## ВІНШУЕМ!

*Наш любімы чытач*

(Упішыце сваё імя)

*Дзякуем табе, што ўжо ТЫСЯЧУ нумароў застаешся з намі.*



*Твая "РГ".*

# Чытайце праз тыдзень:

- **Як падарыць кватэру ўнукам ці дзецям? Як вярнуць грашовыя ўклады памерлых сваякоў? Некаторыя юрыдычныя тонкасці тлумачыць юрыст.**



## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

- У 16 стагоддзі ў Італіі за прачытанне штодзённага публічнага лістка з інфармацыяй плацілі адну дробную манету – газету. Пасля назва манеты перайшла да самога лістка.
- У Францыі існуе газета, якая выходзіць толькі ў высакосныя гады – 29 лютага. Называецца яна La Bougie du Sapeur ("Свечка сапёра"). Сярод іншых матэрыялаў, у ёй публікуецца крыжаванка, адказы на якую, як і трэба, друкуюцца ў наступным нумары... праз чатыры гады! На "Свечку сапёра" можна падпісацца. Каштуе гэта задавальненне 100 еўра, а тэрмін падпіскі складае адно стагоддзе.
- Самая маленькая ў свеце газета выдаецца ў англійскім горадзе Сарэй. Памеры выдання First News складаюць усяго 32 на 22 міліметры.
- Амерыканская газета "Самыя апошнія навіны" выходзіла... кожную гадзіну! Яе чыталі пераважна пасажыры рэйсаў Вашынгтон-Нью-Ёрк-Вашынгтон, якія штогадзіну здзяйснялі самалёты авіякампаніі Pan American.
- Інквізіцыя прымусіла Галілея адрачыся ад сваіх слоў пра тое, што Зямля круціцца вакол Сонца, а не наадварот, але сваіх перакананняў навуковец не памяняў. Аднак знакамітую фразу: "І ўсё-такі яна круціцца!" ён не прамаўляў. Гэты міф прыдумаў праз сто гадоў італьянскі журналіст.
- Першая рэклама на газетнай паласе з'явілася ў 1657 годзе ў адным з англійскіх выданняў. А першая прыватная аб'ява была прысвечаная вышуку зніклага сабакі караля Карла Другога.
- У Беларусі, паводле дадзеных Міністэрства інфармацыі, на 1 студзеня 2014 года выдаецца 712 газет. **Дзякуй, што ў амаль тысячным моры інфармацыі вы выбралі нас.**




Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 26 (1000) 27.06.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 556. Падпісана ў друк у 10.00 26.06.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.